


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 8 (215) ТРАВЕНЬ 2016 ГОДА

**БЕЛАРУСКАЕ ЗЛАМОЎНАЕ ПАЖАДАННЕ**

*Сто гадоў жыць і сто гадоў ракам поўзаць.*

АКЦЫЯ ЎЛАДАЎ

## "ДЗЕНЬ ЦВЯРОЗАСЦІ" ПРЫЙДЗЕ ЗНЯНАЦКУ

**30 траўня ў Гарадоцкім раёне забаронены продаж алкагольнай прадукцыі ва ўсіх крамах розных формаў уласнасці. Адпаведныя абвесткі ўжо з'явіліся ў асобных крамах на дзвярах, але пра гэта няма інфармацыі ў афіцыйных інтэрнэт-рэсурсах Гарадоцкага райвыканкаму, ні ў раёнцы.**

Правядзенне ў раёне 30 траўня "Дня цвярозасці" з забаронай продажу алкагольнай прадукцыі выклікана святам "Апошні званок", які па традыцыі завяршае навучальны год у школах. Каб пазбавіць магчымасці афіцыйна праз гандлёвую сетку набыць алкаголь пад час завяршэння навучальнага года і абвяшчаецца звычайна "Дзень цвярозасці".

Гэтае мерапрыемства стварае нязручнасці менавіта тым грамадзянам, якія ў гэты дзень вырашылі адзначыць нейкае свята. Тым больш, калі пра "дзень цвярозасці" яны даведаюцца 30 траўня непасрэдна ў краме.

І гэта будзе менавіта так, бо акрамя крамаў, гарадоцкія ўлады не парупіліся пра размяшчэнне абвестак ні ў раёнцы, ні на сваім інтэрнэт рэсурсе. Мусіць зыходзілі з прынцыпу: чым нечаканей забарона, то тым лепш. У народзе ж такі прынцып называюць так: што хачу, то і варачу.

Пры гэтым варта адзначыць, што набыць алкаголь у памежнай Доўжы Віцебскага раёну не атрымаецца. Віцебскі райвыканкам прыняў таксама рашэнне аб правядзенні Дня цвярозасці 30 траўня. Пра гэта ўчора паведаміў сайт іхняй раёнкі "Жыццё Прыдзвіння": www.pridvinje.by

**Т. Гаражанка**

РЫНАК ПРАЦЫ

## НАЯЎНАСЦЬ 39 ВОЛЬНЫХ МЕСЦАЎ

**За апошнія 30 дзён у базе вакансій па Гарадоцкаму раёну працадаўцы падцвердзілі наяўнасць толькі 39 вольных месцаў, з якіх 21 належыць унітарнаму прадпрыемству "Паўночны"**

Па стану на 14 траўня ў рэспубліканскай базе вакансій па Гарадоцкаму раёну маецца 53 вакансіі на 86 працоўных месцаў. Але толькі 39 з іх абноўлены за апошні месяц. Пры гэтым з усіх прапануемых месцаў больш паловы былі заяўлены яшчэ напачатку красавіка, ў сакавіку, а дзве вакансіі ад Гарадоцкага льнозавода датуюцца аж 22 лютым.

Найбольшая колькасць вольных месцаў маецца ва УП "Паўночны" – свінакомплекс у аграгарадку Пальмінка. Тут база даных была абноўлена 6 траўня. Таксама тут прапануецца і самы высокі заробак з усіх прапануемых у раёне – ветэрынарнаму ўрачу – 6 500 000 рублёў. Самы ж маленькі заробак ва УП "Паўночны" чакае спецыяліста ідэалагічнай працы са стажам з вышэйшай адукацыяй – 3 400 000 рублёў. Крыху больш прапануецца тут жывёлаводу з сярэдняй адукацыяй пры наяўнасці 5 разраду – 3 500 000 руб.

Самыя ж нізкія заробкі для спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй зараз прапануе КУСГП імя Свердлава для галоўнага заатэхніка і галоўнага агранома -- 2 300 000 руб. Дзяржаўная прыродаахоўчая ўстанова "Карыцінскі мох" егеру і спецыялісту з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй на 0,5 стаўкі прапануе 1 150 000 руб пры пастаяннай працы ў адну змену.

Варта нагадаць, што паводле афіцыйных даных у Гарадоцкім раёне напрыканцы першага квартала гэтага году было зафіксавана ў цэнтры занятасці 103 беспрацоўных, што складае 1,1% ад эканамічна актыўнага насельніцтва раёна. Усяго ж у эканоміцы раёна на канец лютага было занята 9119 чалавек, што на 355 менш, чым годам раней.

**Л. Антонаў**

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

НАВІНЫ ФУТБОЛА

## СТАРТАВАЛІ З ПЕРАМОГІ З БУЙНЫМ ЛІКАМ

**У першым матчы чэмпіянату Віцебскай вобласці па футболу футбалісты ФК "Прамень – Кроў СК" перамаглі ФК "Барань" (Аршанскі раён) з буйным лікам 4:0, дзякуючы найперш хэт-трыку Яўгена Самарына.**

Стартавы матч чарговага чэмпіянату вобласці па футболу прынёс аматарам гульні з Гарадка самыя найлепшыя эмоцыі. Гарадоцкая каманда перамагла з буйным лікам 4:0 з большага былых гульцоў "Экамола", якія ў гэтым сезоне выступаюць пад шыльдай ФК "Барань".

Ды і сама гарадоцкая каманда выступала не толькі ў новай форме – чырвоныя саколкі і чорныя трусы – з лагатыпамі "Птушкафабрыка-Гарадок", "Прамень Кров СК", але і з чатырма новымі ігракамі, якія павінны павялічыць шанцы клуба на выхад у фінальную частку чэмпіянату. Трэба дадаць, што ўпершыню на гарадоцкім стадыёне абвяшчаліся склады каманд, а за брамамі былі маладыя футбалісты, якія падавалі мячы галкіперам.

З першых хвілінаў матча нашы футбалісты трымалі ў напрузе абарону гасцей. І калі на каманду брамніка аддаць яму мяч, абаронца нясільна паслаў мяч галкіперу, то гэты мяч на высокай хуткасці дагнаў Яўген Самарын і накіраваў у браму:1-0. А ішла толькі пятая хвіліна гульні.

Далей гульня ішла з пераменным поспехам, але вастрэй атакавалі гаспадары, у якіх наперадзе былі Самарын і Жарнасек. А калі на 30-й хвіліне быў прызначаны штрафной у непасрэднай блізкасці ад штрафной пляцоўкі, то Самарын класным ударам у левы ніжні вугал брамы зрабіў лік 2-0.

Пасля перапынку характар гульні змяніўся, бо гаспадары маючы перавагу ў два мячы, аддалі ініцыятыву гасцям і адыйшлі на сваю палавіну поля. Але ў гасцей нічога не атрымлівалася, бо на апошнім рубяжы надзейна гуляў галкіпер Павал Хацько, які амаль не дапускаў памылак.

Такая гульня працягвалася амаль паўгадзіны другога тайма пакуль ініцыятыву на сябе не ўзяў дэбютант каманды Антон Вялічка і дальнім ударам зрабіў лік 3-0. Добры падарунак у дзень свайго 30-годдзя!..

А канчатковую кропку ў матчы за 6 хвілін да завяршэння гульні паставіў зноў Яўген Самарын. Наш лідар зноў класным ударам са штрафнога накіраваў мяч у правую дзевятку брамы гасцей: 4-0!!!

Выдатны пачатак чэмпіяната ў выкананні нашых футбалістаў быў да спадобы шматлікім гледачам, якія сабраліся на трыбуне гарадскога стадыёна.

Трэнер каманды Сяргей Куракоў так пракаментаваў гульню: "Результат игры впечатляет! Соперник всегда владел инициативой, имел преимущество в движении. Играя от обороны, мы ждали своего шанса, рассчитывали на быстрые контратаки и исполнительское мастерство наших игроков. Все наши тактические задумки воплотились в жизнь. Победить Оршу дорого стоит, это сильная команда, они ещё всех накажут.

Спасибо ребята за игру и желаем скорейшего выздоровления Малофееву Роману!!!" – https://vk.com/luch_gorogok

Іншыя гульні першага круга прынеслі такія вынікі: "Ніва" (Талачын) – "Газавік" (Віцебск): 0-4, ФК "Камунальнік" (Сянно) – ФК "Бешанковічы": 6-2.

Наступны матч наша каманда правядзе ў гасцях у Бешанковічах 5 чэрвеня.

**Леанід Гаравы**

БРАКАНЬЕРСТВА

## ЗЛАВІЛІ БРАКАНЬЕРА З ВІЦЕБСКУ

**На мінулыя святы супрацоўнікі Гарадоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету затрымалі на возеры Нэгра браканьера з Віцебску. Усяго падчас святаў у Віцебскай вобласці было зафіксавана чатыры выпадку браканьерства, якія нанеслі прыродзе шкоду на 345 мільёнаў рублёў.**

З рыбацкімі сеткамі гарадоцкія інспектары злавілі жыхара Віцебска на возеры Нэгра ў Гарадоцкім раёне. Вылаўленых ім 45 асобін рыбы хапіла, каб падняць пытанне аб узбуджэньні крымінальнай справы і кампенсацыі 34 мільёнаў шкоды прыродзе, паведамляе прэс-служба Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.

У Аршанскі раён на возера Арэхаўскае інспектары выехалі па сігналу, які паступіў на тэлефон даверу. Спачатку былі затрыманыя трое мясцовых жыхароў, у якіх канфіскавалі 500-метровую сетку і 27 кг рыбы (58 ляшчоў, 15 акунёў і 11 асобін іншых відаў). Праз некаторы час на возеры заўважылі яшчэ аднаго сецевіка ва ўлове якога апынулася 39 ляшчоў. Цяпер браканьеры павінны выплаціць за незаконны промысел - 153 і 82 мільёны рублёў адпаведна.

Утой жа дзень на возеры Тэклец быў затрыманы ураджэнец Лепеля, які ўсталяваў дзве дробнаячэйныя сеткі (дыяметр вочка 1 см). У іх патрапіла 117 дробных рыбешак, у асноўным плоткі. Аднак кампенсаваць нанесеную прыродзе шкоду і за малую, і за буйную рыбу прыйдзецца па адной і той жа таксе. Грэбаванне правіламі абыйдзецца парушальніку ў 76 мільёнаў рублёў.

**Л. Антонаў**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

*************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

"ВАЛЮТЧЫКІ"

# У ВЯСКОЎЦАЎ КАНФІСКУЮЦЬ ВАЛЮТУ ДЫ ЯШЧЭ АШТРАФУЮЦЬ…

**Вяскоўцы з Гарадка прадалі цялятаў замежніку, які разлічыўся з імі расійскімі рублямі.**

Нарыхтоўшчык скупляў маладняк на тэрыторыі Гарадоцкага раёна. У агульнай складанасці набыў у мясцовага насельніцтва сем галоў буйной рагатай жывёлы. Загрузіўшы жывёл у аўтафургон, павёз іх у Расею. Але на мяжы з суседняй дзяржавай ля в. Лугаўскія падазроны груз тармазнулі.

У расійскага прадпрымальніка не аказалася ніякіх суправаджальных дакументаў - ні таварна-транспартных накладных, ні даведак аб тым, што цяляты вырашчаны ў падсобных гаспадарках вяскоўцаў. Плюс да ўсяго, жывёлу перавозіўся з парушэннямі ветэрынарных правіл. Прыйшлося скласці пратакол. Падрабязнасці незвычайнага гандлёвага ваяжу распавёў пракурор Гарадоцкага раёна Міхаіл Пацееў:

-У вынiку расеец павёз жывёл да новага месца жыхарства. Але пры правядзенні праверкі перавозчык назваў адрасы тых жыхароў раёна, якія прадалі яму маладняк. Заадно прызнаўся, што разлічыўся з імі расійскімі рублямі.

У пракуратуры патлумачылі, што ў адпаведнасці з законам, у нашай краіне забароненыя валютныя аперацыі ў разліках паміж грамадзянамі. А таму ў дачыненні да ўсіх семярых прадаўцоў жывога тавару былі складзеныя адміністрацыйныя пратаколы па фактах ажыццяўлення імі незаконных валютных здзелак. Цяпер ім пагражае штраф у памеры да 100 базавых велічынь. На сённяшні дзень гэта больш за 20 мільёнаў рублёў. Падлягае канфіскацыі і незаконна атрыманы даход. У аднаго з фігурантаў ужо канфіскавана больш за 8 тысяч расійскіх рублёў.

**Алена Бегунова**
**"СБ"**

ЗДАРЭННЕ

# СУПРАЦЬ МАСКВІЧА ЎЗБУДЖАНА СПРАВА

**За стральбу з пісталета, незаконнае захаванне і перавозку агнястрэльнай зброі супраць 49-гадовага масківіча ўзбуджана крымінальная справа.**

"Гарадоцкі веснік" паведаміў пра тое, як напярэдадні Дня Перамогі жыхары в. Хабаты былі ўсхваляваны стрэламі на беразе возера Вымна. Пасля звароту жыхароў у Гарадоцкі РАУС супрацоўнікі міліцыі ўстанавілі, што практыкаваннямі па стральбе ля возера Вымна займаўся 49-гадовы жыхар г. Масквы і 43-гадовы гаспадар дачы з г. Віцебска.

Супрацоўнікі следча-аператыўнай групы Гарадоцкага РАУС забралі ў масквіча пісталет і 12 куляў да яго. Жыхар г. Масквы не меў неабходных дакументаў на захаванне і перавозку агнястрэльнай зброі. Маскоўскі госць быў дастаўлены ў ізалятар часовага ўтрымання Гарадоцкага РАУС, а Гарадоцкі РАСК узбудзіў супраць яго крымінальную справу.

Хутчэй за ўсё масквічу інкрымініруецца парушэнне артыкула 295-2 КК РБ "Незаконныя дзеянні ў дачыненні да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў". Па гэтаму артыкулу грамадзяне ў Беларусі караюцца папраўчымі работамі на тэрмін да двух гадоў, або арыштам на тэрмін да шасці месяцаў, ці абмежаваннем волі на тэрмін да пяці гадоў, або пазбаўленнем волі на тэрмін да сямі гадоў з канфіскацыяй маёмасці або без канфіскацыі.

**Л. Антонаў**

ГУЛЬНЯ

# КАРТА БИТЫХ. ПОДРОБНОСТИ ИСТОРИИ ИГРОМАНКИ...

**Сначала они играли вместе. Не могли оторваться от автоматов. Казалось, вот оно, везение, совсем рядом. Стали завсегдатаями игрового клуба. Поставив в итоге на кон семейное благополучие и судьбу несовершеннолетней дочери. Как так случилось?**

Есть ситуации, когда здравый смысл не работает. Психологи утверждают, что это об игромании. Но чтобы вылечить эту болезнь, нужно признаться самому себе: проблема есть. А вот это, как показывает практика, сделать не очень легко.

Сначала они играли вместе. Не могли оторваться от автоматов. Казалось, вот оно, везение, совсем рядом. Стали завсегдатаями игрового клуба. Поставив в итоге на кон семейное благополучие и судьбу несовершеннолетней дочери. Как так случилось?

Татьяне (имена изменены) было скучно в маленьком Городке — до того они с мужем несколько лет работали в Москве. Шестнадцатилетнюю Настю помогала растить бабушка. Из российской столицы вернулись года 4 назад. Хотели отремонтировать дом, но было уже не до того. При любом удобном случае безработные супруги ехали в областной центр. Вот только денег становилось у них все меньше.

Потом Сергей будет вспоминать, как пошли проведать его мать в больничную палату. Как-то так ненавязчиво получилось убедить ее в том, что все беды со здоровьем — из-за золотых сережек. Надо бы их очистить от зла. Мать согласилась и передала детям драгоценности. Она еще не знала, что к тому времени из ее дома уже исчезла большая сумма денег, мультиварка, электромясорубка и другие вещи. Обнаружила пропажу, когда вернулась из больницы. Тут же написала заявление в милицию: так, мол, и так, неизвестные люди ограбили дом. Когда узнала правду, была шокирована, но сын с невесткой пообещали завязать.

Дело, как говорится, семейное. И эту нелицеприятную историю, пожалуй, все действующие лица, да и сотрудники местного райотдела милиции тоже, благополучно забыли бы. Но вскоре в РОВД поступает новое заявление. На этот раз за помощью обратилась Татьяна. Потребовала найти неизвестных мошенников, которые обманным путем выманили у нее буквально за полгода (с сентября по март) 60 тысяч долларов.

Размах, небывалый для Витебщины. Оперативники взялись за работу.

Татьяна всячески помогала им в розысках — детально описывала, как, сидя за компьютером, ввела в поисковик запрос «быстрые деньги» и нашла минскую фирму. Как связалась с тамошними сотрудниками и те пообещали утроить ее капитал. Для этих целей даже специально прислали в Витебск своего представителя. Потом Татьяна вместе с другими желающими быстро обогатиться съездила в столицу для заключения договора. Ей разъяснили правила, и она поняла главное условие: чем больше вкладываешь средств, тем больше получаешь дивидендов. Сначала отдала им 27 тысяч долларов, которые имелись в наличии. Потом ей предложили оформить в залог дом. Получила первые проценты и была довольна — можно, мол, неплохо заработать. Решила пополнить свой счет в фирме и взяла кредит в банке на довольно крупную сумму. Потом уговорила свою мать сделать то же самое. Деньги снова якобы отвезла в Минск. Там ей предложили еще один способ получения наличности — взять в фирменном магазине сотового оператора несколько телефонов в рассрочку и продать их. Затем продала и уже заложенный дом.

В милиции скрупулезно записывали ее показания, особые приметы многочисленных действующих лиц мошеннической корпорации, адреса, явки, телефоны. Предстояло отработать хорошую половину города Минска.

Однако в милиции вспомнили о предыдущем заявлении матери Сергея и, прежде чем начать всереспубликанский розыск неведомых мошенников, оперативники решили пробить уже известные маршруты. Тем более что «жертва» не скрывала своей тяги к азартным играм и утверждала, что ее удача иногда оценивалась в несколько десятков миллионов — дважды на протяжении полутора месяцев: мол, были выигрыши по 70 миллионов рублей. Их и вкладывала в «быстрые деньги».

Непонятно, конечно, зачем при таком доходе нужно было мелочиться на телефоны в рассрочку. Да и в ломбарде, куда при отработке версии заглянули милиционеры, им выдали целый список имущества, которое периодически сдавала сюда Татьяна — от рубанка и обручального кольца до ЖК-телевизора. Супруг заявительницы тоже пояснил, что «на проверку» телевизионного излучения жена увозила из дома аппарат несколько раз — утверждала, что именно из-за него заболела свекровь.

На тот момент семейная жизнь у них уже разладилась, Таня с дочкой ушла к своей маме. Встал вопрос раздела имущества. До этого по объявлениям семья продала все, что можно было реализовать, — бетономешалку, стройматериалы, приготовленные для ремонта дома, и даже отопительные батареи. Но Сергей до последнего думал, что на счетах супруги хранится внушительная сумма денег — она показывала ему выписки-справки.

Заместитель прокурора Городокского района Максим Зиновик рассказывает:

— Чтобы скрыть последствия своей пагубной страсти, дама и придумала детективную историю о мошенниках. А банковские справки для успокоения домашних просто распечатывала по интернетовским образцам с помощью принтера. Поняв, что в любом случае тайное скоро станет явным, она созналась в том, что написала в милицию заведомо ложное заявление и объяснила это страхом перед мужем, вместе с которым и было нажито все проигранное на автоматах имущество. Правда, Татьяна утверждает, что почти всегда играла вместе с супругом. Он якобы помогал тратить в витебских клубах и деньги, вырученные от продажи дома. Сергей не отрицает, что примерно 2,5 года посещал игровые заведения на пару с женой, но сумм выигрышей и проигрышей не помнит, поскольку деньгами распоряжалась благоверная. Он был уверен, что с учетом проданного дома, принадлежащего супруге, примерно 60 тысяч долларов у них на счетах имеется. Но денег не оказалось.

Сейчас проводится проверка, «фантазерке» грозит ответственность за заведомо ложный донос о преступлении.

Кстати, самое строгое наказание по соответствующей статье Уголовного кодекса предусматривает лишение свободы на срок до 5 лет.

Комментарий Елена Мартынова, главный врач Витебского областного клинического центра психиатрии и наркологии:

— Любая зависимость, вытесняющая обычные человеческие ценности, — это болезнь. Ежегодно за помощью в наш центр обращаются десятки людей, которые не могут самостоятельно справиться с тягой к азартным играм. Большинство из них проходят курс лечения анонимно. К сожалению, самая весомая часть наших пациентов — дети и подростки, которых за руку приводят родители. Но независимо от возраста пациента психологи и психотерапевты будут бессильны, если человек сам не осознает свою проблему. Но даже в этом случае лечение может растянуться на год и более. Очень важно общими усилиями найти альтернативную деятельность — то есть увлечение или занятие, которое заполнит в жизни игромана вакуум, образовавшийся после его отказа от опасного хобби. Это нужно сделать в обязательном порядке. Недавно Министерством здравоохранения были разработаны специальная инструкция и тесты для диагностики игровой зависимости. Они очень просты и пользоваться ими могут все. Стоит лишь помнить, что нередко для запуска болезненного механизма достаточно лишь единожды сесть за игровой автомат.

***Кстати***

*В Дятлово муж оставил всю семейную наличность в казино. Чтобы не признаваться в этом жене и родителям, инсценировал ограбление квартиры и написал заявление в милицию. Его судили за ложное сообщение о преступлении.*

*А возможность добровольно внести себя в черные списки игровых заведений и ограничить свой доступ к соблазну за три года, прошедших после введения в действие соответствующей правовой нормы, использовали около 30 тысяч человек.*

**Елена Бегунова**
**ng.sb.by**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ДВА СУСВЕТЫ — ДВА ЛЁСЫ

**Мне давялося зноў перасекчы Атлантычны акіян, бо нарадзіўся чарговы амерыканскі ўнук. Пяць гадоў таму я ўжо меў магчымасць на асабістым досведзе пераканацца, што значыць жыць ва ўмовах капіталізму.**

Два сусветы — два лёсы. І з гэтым не паспрачаешся. «Нарадзілася дзіця, — тут я цытую фрагмент з інаўгурацыйнай прамовы адзінага палітыка (АП), — да трох гадоў адзін з бацькоў мае магчымасць сядзець з малым, выхоўваць яго, атрымліваць бясплатныя лекі».

Гэта ў нас. А ў Амерыцы дародавага адпачынку няма наогул, а пасля родаў — шэсць тыдняў. Круціся як хочаш. Вось і лётае дзед-пенсіянер праз акіян «за кошт запрашаючага боку».

Натуральна, пасля вяртання сябры і знаёмыя задаюць стандартнае пытанне: «Ну як там Амерыка?» Але адкуль я ведаю, як там яна? Я тры месяцы прасядзеў у чатырох сценах. Далёка не кожны тыдзень мяне вывозілі ў бліжэйшы гандлёвы цэнтр, і раз на месяц мы ездзілі «праветрыцца» ў адзін з бліжэйшых гарадоў. З такім досведам наскрэсці матэрыял на «Азбуку паліталогіі» не так проста. Аднак я паспрабую.

**4 ахоўнікі замест 150**

Адна з вандровак была звязана з паездкай у Вашынгтон на Нацыянальны фестываль квітнення сакуры (National Cherry Blossom Festival). У цэнтры амерыканскай сталіцы высаджаны тры тысячы японскіх вішань. Дрэвам больш за сто гадоў. У 1912 годзе іх падарыў гораду мэр Токіа.

Выдатнае надвор'е. Тысячы людзей гулялі пад квітнеючымі дрэвамі. Шпіль манумента Вашынгтона на фоне Белага дома і... ніводнага паліцэйскага, ніводнага! І гэта за пяць гадзін пікніка! А за тры месяцы «жыўцом» я бачыў паліцыянтаў толькі адзін раз. У кафэ гандлёвага цэнтра яны зайшлі папіць кавы.

Яшчэ адна дэталь: адсутнасць платоў перад індывідуальнымі дамамі. Задні двор — не лічым. Але страх перад рабаўнікамі тут ні пры чым. У раёне, у якім я жыў, усе задния дзверы выходзілі ў лес, а там поўна аленяў і іншай жыўнасці. Акрамя таго многія домаўладальнікі трымаюць сабак. Наяўнасць плоту ў такіх выпадках абавязковая.

Але ад прыватнага прыкладу падымуся да абагульнення, запазычанага ў інтэрнэце з артыкула «Чаму трактарны завод застанецца ў Канадзе»: «У мэтах аховы і прадухілення парушэнняў правапарадку на тэрыторыі завода ў Растове-на-Доне прадпрыемства вымушана ўтрымліваць вялікі штат аховы (каля 150 чалавек). Выдаткі ўключаюць у сябе заработную плату, уніформу, страхоўку, утрыманне службовых памяшканняў, звязаныя падаткі. Штат аховы на заводзе ў Канадзе складае 4 чалавекі, а іх функцыі абмяжоўваюцца кантролем прапускной сістэмы і, у выпадку неабходнасці, камунікацыямі з органамі правапарадку».

Два сусветы — два лёсы. І гэта толькі адзін прыклад з артыкула. Мне, уладальніку запісу «вартаўнік» у працоўнай кніжцы, прыклад з ахоўнікамі асабліва блізкі. Як-ніяк год ахоўваў будоўлю побач з плошчай Бангалор у Мінску. Кругласутачная ахова. Высокі плот. Два сабакі. Без гэтай тройцы ўсё, што можна вынесці і вывезці, было б вынесена і вывезена. І гэтай шаноўнай справай заняліся б не прафесійныя рабаўнікі, а жыхары суседніх шматпавярховікаў.

Здаецца, усё насельніцтва краіны можна падзяліць на дзве групы: на тых, хто крадзе, і на тых, хто не крадзе. Да другой групы належаць, галоўным чынам, грамадзяне, папросту пазбаўленыя ў сілу розных абставін магчымасці красці.

І не трэба вінаваціць мяне ў імкненні ўзвесці паклёп на беларускі народ. Свежы прыклад. Камітэт дзяржкантролю завяршыў праверку сістэмы ЖКГ. Пра гэта ў эфіры тэлеканала АНТ заявіў старшыня камітэта Леанід Анфімаў: «На эмоцыях я б мог цяпер арыштаваць палову складу Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі...»




Работнікі міністэрства. Сур'ёзныя сталыя людзі. А па кожнаму другому турма плача! Што ж тады казаць пра жыхароў звычайных шматпавярховікаў...

**Чаго не хапае?**

У канцы красавіка ў садах Дзюпона расквітнелі цюльпаны. Час, які я выдаткаваў на іх сузіранне, быў узнагароджаны магчымасцю ўсвядоміць яшчэ адно з азбукавых адрозненняў паміж двума сусветамі. Уявіце невялікі фантан ля ўваходу ў аранжарэю. Падбягаюць два хлопчыкі і дзяўчынка гадоў 4–5. Кладуцца на мармуровую падлогу і пачынаюць далонькамі стукаць па вадзе. Пырскі ляцяць ва ўсе бакі. Нагуляўшыся, дзеці ўстаюць. На дзяўчынцы ружовыя нагавічкі. Яны, натуральна, мокрыя і брудныя. Як на гэта рэагуе мама? НІЯК!

Побач з маім домам у Мінску — альтанка, каля якой у добрае надвор'е тусуюцца маладыя жанчыны з малымі. Думаю, чытачам не трэба тлумачыць, якія чуюцца крыкі, калі малое з разбегу падае на асфальт. Як сказаў бы ў такім выпадку АП, «гвалтам крычаць».

А ў логаве імперыялізму, дзе чалавек чалавеку воўк, такое немагчыма ў прынцыпе. Вось на травяністым схіле куляюцца дзеці. На іх маечкі і джынсы. Але падышла дзяўчынка, разадзетая як Мальвіна, і далучылася да кампаніі. Бацькі сядзяць побач і пра штосьці спакойна размаўляюць. Карункавая сукенка — не падстава, каб адмовіць дзіцяці ў задавальненні пакатацца па траве.

Два сусветы — два лёсы, дзве стратэгіі выжывання. Адна абапіраецца пераважна на заах-вочванне. Іншая бярэ за аснову рэпрэсіі. «Гісторыя паказвае нам, — тлумачыць культуролаг Ігар Якавенка, — што тыя краіны, якія робяць стаўку на заахвочванне, развіваюцца дынамічна. А тыя грамадствы, што трымаюцца за рэпрэсіі, прайграюць».

Да якога сусвету належыць Беларусь, здаецца, вызначыць нескладана. Чытачам жа, у якіх паўстануць з гэтым цяжкасці, рэкамендую звярнуцца да выступленняў АП. Адкрываю ў сваёй кампутарнай бібліятэцы файл «Парадак і дысцыпліна»: «Я не разумею, чаго не хапае? Угнаенні ёсць, насенне ёсць. Усё ёсць. Вёска ўжо кажа, што тэхнікі не трэба больш. Але патрэбны парадак (выдзелена. — С.Н.)».

Парадак патрэбны, таму што яго няма. І за два дзесяцігоддзі актыўнага будаўніцтва беларускай мадэлі дамагчыся яго так і не атрымалася. Тут варта прыгадаць знакамітую характарыстыку айчыннай рэальнасці з «Аповесці мінулых гадоў»: «Земля наша велика и обильна, а порядка в ней нет».

Аднак гэта скажоны варыянт . У першакрыніцы — Іпацьеўскім летапісе — гаварылася: «…земля наша велика и обильна, а наряда в ней нет». Слова «наряд» з'яўляецца аднакарэнным са састарэлым словам «нарядчик» і захавалася ў сучаснай рускай мове ў выразах накшталт «наряд на работу». Азначала ж яно «распараджэнне», «кіраўніцтва». Акрамя таго, існуюць і рознае чытанні гэтай фразы ў розных летапісах. Так, у Цвярскім летапісе гэтая фраза гучыць наступным чынам: «Вся земля наша добра есть и велика изобильна всем а нарядникъ в ней несть». Тут ужо гаворка ідзе пра «нарядника» — пра кіраўніка.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**

БУДУЧЫНЯ

# «НАС ЖДУТ ВРЕМЕНА, ПОДОБНЫЕ КРИЗИСУ ПОСЛЕ РАЗВАЛА СОВЕТСКОГО СОЮЗА»

**В белорусском бюджете практически исчерпаны возможности для повышения зарплат, пенсий, пособий и стипендий, заявляют в Министерстве финансов. Экономист Ярослав Романчук полагает, что нас ждут времена, подобные кризису после развала Советского союза.**

**Резервы исчерпаны**

В Беларуси практически исчерпаны резервы для наращивания социальных обязательств. Об этом заявил первый заместитель министра финансов Максим Ермолович в интервью, которое опубликовано в майском номере журнала «Финансы, учет, аудит», издаваемого Минфином.

«Учитывая, что Беларусь остается социально ориентированным государством, большая часть расходов бюджета традиционно направляется на финансирование соответствующих статей, связанных с поддержкой населения. В данном случае корректно говорить не только об образовании, здравоохранении, культуре, спорте, но и транспортной отрасли, ЖКХ, сельском хозяйстве. Таким образом, в республике делается очень многое для сохранения на приемлемом уровне цен на товары и услуги наших граждан», — сказал Максим Ермолович.

При этом, подчеркнул он, данная работа проводится за счет бюджета. «В подобной системе нет ничего удивительного. Иных источников финансирования вышеназванных направлений еще не придумали ни в одной стране мира», — сказал первый замминистра финансов.

Однако, отметил Ермолович, свои желания нужно соизмерять с имеющимися возможностями: «К сожалению, в Беларуси для наращивания социальных обязательств резервы практически исчерпаны. Приступать в ближайшее время к реализации новых амбициозных задач вряд ли имеем смысл, так как они не подкреплены реальным финансированием».

Среди прочего, подчеркнул он, ограничения коснутся темпов повышения заработных плат, а также увеличения пенсий, пособий, стипендий. «Существенно наращивать такие затраты проблематично», — сказал первый замминистра финансов.

**Тяжелые времена**

Руководитель Научно-исследовательского центра Мизеса Ярослав Романчук считает, что власти идут именно на сокращение социальных расходов, потому что лобби крупного бизнеса в сфере промышленности и сельского хозяйства сильнее, чем давление населения.

«Власти уступают нажиму консолидированных и достаточно активных лоббистов, потому что они представляют информацию так, что от них властям будет больше проблем, чем от затягивания поясов населением. И сельское хозяйство, и промышленность продолжают получать непомерную поддержку, грубо нарушая публичные требования Александра Лукашенко не давать деньги убыточным и бесперспективным проектам. Население же, поскольку не имеет своего прямого представительства в органах государственного управления, будет нести увеличенное бремя нагрузки», — отмечает экономист.

В будущем, по его мнению, населению стоит готовиться к максимальной зарплате в 200 долларов и пенсии меньше 100 долларов. При этом цены и безработица будут расти, а курс рубля в условиях валютного дефицита останется нестабильным.

«Беларусь, по сути дела, вступает в полосу развала Советского союза 2.0. Мы впервые столкнулись с квадро-кризисом: структурным, системным, конъюнктурным и управленческим. Вдальнейшем он будет только усугубляться», — полагает Ярослав Романчук.

*(сокращено)*

**Александр Ярошевич**
**БЕЛАПАН**

ВЫЗВАЛЕННЕ

# «РОССИЯНАМ НЕЧЕГО БОЯТЬСЯ, С КОЛЕН НАДО ВСТАВАТЬ»

**Президент Украины Петр Порошенко вручил летчице Надежде Савченко орден «Золотая Звезда» — «за проявленное мужество и жертвенное служение украинскому народу».**

**Петр Порошенко в твиттере: «Наша Надя уже на украинской земле»**

Об этом в своем твиттере написал президент Украины Петр Порошенко: «Наша Надя уже на украинской земле. Рад поздравить ее с возвращением! Поздравляю украинцев и весь мир с нашей Победой! Слава Богу - в этот раз все удалось. Продолжаем борьбу за освобождение всех украинских заложников. Благодарю всех, кто помогал мне приближать сегодняшнюю победу. Долгие 709 дней плена наконец закончились».

Самолет с россиянами Александром Александровым и Евгением Ерофеевым приземлился во Внуково. Пресс-секретарь российского президента Дмитрий Песков подтвердил: самолет ГТК «Россия» доставил их в Москву.

**«Назло им я выжила»**

Прокричала Надежда в аэропорту журналистам.

— Я готова умереть каждую секунду за то, чтобы мы могли жить так, как мы хотим. Мы должны бороться за то, чтобы все остальные тоже оказались на свободе! Спасибо всем, и даже тем, кто желал мне зла - благодаря их словам я выжила! - сказала Савченко, сообщает Би-би-си.

В своем выступлении в аэропорту она также попросила прощения у тех, кто погиб в украинской АТО или попал в плен:

— Герои Украины не должны умирать, потому что очень выгодно, когда герои мертвы.

После эмоционального выступления, продолжавшегося несколько минут, она сказала журналистам: «Уважайте личное пространство человека. Я отвыкла от свободы, потому прошу прощения за резкость».

— Это реально приехал сильный лидер домой, - заявила Юлия Тимошенко журналистам после того, как пообщалась с Савченко.

По словам главы партии, Савченко «готова немедленно, уже сегодня, начать работать на Украину».

- Она мне задала первый вопрос: «когда приступать к работе»? Она сказала: «Мне уже сейчас ехать на работу?». Она спросила, где ей завтра быть, куда завтра приходить и приступать к работе, - добавила лидер фракции.

Тимошенко также подчеркнула, что готова всячески помогать Савченко в полной мере реализовать свой «уникальный потенциал и уникальную моральность и способность служить Украине».

Тем временем журналисты «Украинских новостей» обратили внимание на то, что Савченко отказалась принять букет цветов от Тимошенко.

— Лучше отдайте цветы моей маме, - объяснила украинская военнослужащая, добавив, что цветы ей не нужны.

Президент Украины Петр Порошенко заявил о намерении вернуть Донбасс и Крым.

— Как мы вернули Надежду, так вернем Донбасс и Крым, — заявил Порошенко.

**Порошенко вручил Савченко орден «Золотая Звезда»**

Как сообщает «Газета.Ru», Порошенко вручил Надежде Савченко орден «Золотая Звезда» — знак отличия Героя Украины — «за проявленное мужество и жертвенное служение украинскому народу». Матери Савченко он вручил огромный букет.

В свою очередь Савченко пообещала сделать все, чтобы минские соглашения выполнялись.

— Украина имеет право быть, несмотря на чью-то больную душу или голову, — заявила она на пресс-конференции.

— Я вам хочу сказать... в первую очередь передать привет россиянам и сказать, что нечего бояться, с колен надо вставать. Я понимаю, что не та страна, в которой с колен встать легко, но если они хотят так же жить в согласии, как и мы, то им нужно вставать с колен, а нам надо не дать им прийти сюда, - заявила Савченко во время совместной пресс-конференции с президентом Украины Петром Порошенко.

Она отметила, что будет работать, чтобы каждый пленный украинец вернулся живой, и чтобы Украина была сильной, а народ не был забыт, сообщает "УНИАН".

СУДОВАЯ СПРАВА

# "НЕ ПРЕДСТАВЛЯЮ, ЗАЧЕМ ОБЕЗГЛАВЛИВАЛИ НАШЕ ПРЕДПРИЯТИЕ"

**23 мая в Верховном суде продолжились прения по делу сенатора и гендиректора Витебской бройлерной птицефабрики Анны Шарейко и еще шести обвиняемых. Стороны обвинения и защиты обменялись репликами, а обвиняемые выступили с последним словом.**

Гособвинитель Анатолий Метельский отметил, что из обвинения исключили только совершение преступления в группе и материальный ущерб, остальное обвинение поддержано в полном объеме — создание Норкусом цепочек подконтрольных ему фирм для получения дохода, личная заинтересованность Норкуса и Шарейко в результатах конкурсов и т.д. Обвинение также обратило внимание на свидетельства юристов Протасовицкого и Амельчени, которые поясняли, где были нарушения членов комиссии при проведении переговоров.

Адвокаты, по мнению прокурора, пытались опорочить показания юристов, называя Протасовицкого теоретиком. «Эти доводы считаю несостоятельными, он высококвалифицированный юрист», — заявил гособвинитель.

Адвокат Шарейко Татьяна Сычева сказала о том, что реплика обвинения повергает защиту в шок. Речь о словах, что прокурор полностью подтверждает обвинение, но отказывается от «группы» и особо крупного ущерба. Это, по мнению защитника, создает состав преступления, не предусмотренного законом. Переквалифицируя статью на часть 2, а не 3 (группа по предварительному сговору), надо понимать, что каждое обвинение должно выстраиваться самостоятельно — ведь группы нет. «Исходя из существующего обвинения, нельзя понять, кто и в чем обвиняется, пока вменяется все и всем», — отметила адвокат.

При этом абсолютно непонятно, что такое общественный интерес, как его подорвала Шарейко.

Комментируя заявления юриста Протасовицкого, Татьяна Сычева отметила, что он «такой же адвокат, как и мы, нас здесь 7 человек, и у некоторых тоже есть степень».

«Он ничем не лучше других юристов. Мнения юристов не имеют никакого отношения к должностным действиям обвиняемых. Если нет ущерба, а ущерба фабрика не понесла, значит существенного вреда от ее деятельности быть не может», — считает защита.

Защитник Норкуса Ирина Карасевич обратила внимание на то, что адвокату даже не дали ознакомиться с письменным носителем нового обвинения: «Люди не знают, в чем обвиняются. Прошу оправдать, только такой приговор может восстановить попранную справедливость».

Адвокат Михаила Разживина Борис Лесковский обратил внимание, что из всех контрактов с «Русском-Р» обвиняемым вменяется в вину 5, а контрактов более 40. «То есть это не может считаться продолжаемым преступлением. А тогда обвинение должно конкретизировать ущерб и вред по каждому конкретному эпизоду», — отметил защитник.

Затем в суде выступили обвиняемые с последним словом.

Анна Шарейко подчеркнула, что работала на птицефабрике со студенческой скамьи, всегда трудилась добросовестно и работала с позиции государственного человека: «Никакие личные отношения не могли повлиять на мое отношение к фабрике».

Она отметила, что неоспорим факт того, что при ней фабрика стала одним из самых успешных предприятий страны. «Предприятие развивалось, наращивало объемы, выполняло доведенные показатели, никогда не имело долгов перед бюджетом, по зарплате и за энергоносители», — подчеркнула бывший руководитель фабрики.

Шарейко отметила, что не хочет носить пятно преступника, которое «не заслужила никоим образом». Она также подчеркнула, что хочет понять, чем руководствовались представители правоохранительных органов, обезглавливая крупное многопрофильное предприятие в разгар реализации стратегических для предприятий и отрасли проектов, в том числе речь идет о строительстве мощного комбикормового завода, который в данный момент находится в стадии пуско-наладки, хотя ввести в строй его планировали еще в конце 2014 года.

Более 120 млрд рублей фабрикой потеряно, констатировала гендиректор фабрики. Потребовалось время для того, чтобы новому руководству вникнуть в проект, и банки стали иначе относиться к некогда благополучному заемщику. Потери фабрики за прошлый год Шарейко оценила в 110 млрд рублей. Потери фабрики за период сидения в СИЗО ключевых специалистов, по мнению Шарейко, достигают 230 млрд рублей.

Заместитель Анны Шарейко Надежда Семченкова не признала себя полностью виновной и напомнила, что уже изложила свою позицию в двух обращениях к президенту.

Она рассказала, что в 2013 году на фабрику приняли на работу сотрудника правоохранительных органов под прикрытием, который позже приходил в СИЗО, утверждая, что коллектив обвиняемых не поддерживает. Этот сотрудник, считает Семченкова, подрывал работу предприятия, распространял ложные слухи об администрации предприятия, но не добился того, чтобы коллектив поменял мнение о своих руководителях. «Анонимка, положенная в основу обвинения, это письмо, написанное Министерством внутренних дел, что потребовалось для заведения уголовного дела», — уверена обвиняемая.

Шесть обвиняемых попросили их оправдать. Седьмой, признавший свою вину, попросил вынести «объективный приговор».

Суд удалился в совещательную комнату. Приговор будет вынесен в 10 часов 10 июня.

tut.by

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 30.05.2016 у 18.20** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.